


# КАРДОН

*З родным словам кроў не стыне…*
*А. Бабаед*

№3

*кастрычнік 1999*

Інфармацыйна – публіцыстычны бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

## МЫ ХОЧАМ ЖЫЦЬ У ВОЛЬНАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ !

З такім настроем 17 кастрычніка на масавую грамадзянскую акцыю " Марш Свабоды" выйшлі дзесяткі тысяч жыхароў і гасцей сталіцы. У руках у іх былі бел-чырвона-белыя сцягі,лозунгі,плакаты. Настрой быў прыўзняты,святочны. На плошчы Бангалор адбыўся мітынг, у рэзалюцыі якога патрабаванні да улад : спыніць уцягванне краіны ў расійскую імперыю, вызваліць палітычных вязняў, дапусціць апазіцыю да сродкаў масавай інфармацыі.

Пасля мітынгу удзельнікі " Марша Свабоды" збіраліся занесці 20-мятровы бел-чырвона-белы сцяг на плошчу Незалежнасці. Але данесці сцяг да плошчы не ўдалося: дарогу перагарадзілі шматлікія шэрагі ў камуфляжнай форме . Пачаліся правакацыі і сутыкненні. Што баранілі людзі з дубінкамі зразумець немагчыма. Мірная дэманстрацыя не мела на мэце захоп дзяржустаноў ці яшчэ нейкі тэрор. Канстытуцыя гарантуе свабоду маніфестацый, закон толькі прадугледжвае парадак правядзення палітычнай акцыі, а забараніць шэсце ці дэманстрацыю не дазваляе нікому.Але узброеныя дубінкамі ,захаваныя каскамі, камуфляжам і шчытамі пайшлі на удзельнікаў "Маршу Свабоды", чые галовы былі захаваны толькі бел-чырвога-белымі павязкамі. Потым прымянілі газ. Пабоішча закончылася поўнай расправай. Людзі, уцякаючы, кідаліся нават у раку.Гэта на БТ паказвалі зманціраваны міліцэйскі запіс падзей: сапраўдная бітва камянямі. А сведкі сцвярджаюць, што натыкнуўшыся на спецназаўскі заслон, кіраўнік павярнуў калону ў абыход. Тады з-за расступіўшыхся шчытоў выскачылі (нехта ж аддаў загад) людзі ў камуфляжы і пачалі хапаць дэманстрантаў.А потым спрацавала псіхалогія натоўпу. Гэта было добра бачна ў паказах НТВ і іншых расійскіх каналаў.

***Я.Мірон***

## *АБ ПАДЗЕЯХ 17 КАСТРЫЧНІКА У МІНСКУ.*

Некалькі дзён запар беларускае тэлебачанне пракручвала эпізоды мінскай драмы 17 кастрычніка і смакавала на ўсе лады "пракол" апазіцыі. Ніводзін з каментатараў нават не паспрабаваў выказаць меркаванне, якое б адрознівалася ад афіцыйнага. З экрана ад бясконцых паўтораў, здавалася, абрушыўся камнепад. Чаго толькі не нагаварылі пра дэманстрантаў: і "падрыхтаваныя баевікі", і "п`яныя хуліганы", і "атрымаўшыя долары" за удзел у акцыі пратэсту. Асабліва здзіўляла несупадзенне колькасці дэманстрантаў: запруджаная людзмі вуліца на якой відавочна дзесяткі тысяч чалавек і афіцыйны каментарый: " некалькі тысяч ".

Што ж адбылося на самой справе ў Мінску?

Наша жыццё пагаршаецца з году ў год, а апошнім часам з месяца ў месяц. Большасць людзей даўно ўжо за рысай беднасці. Напружанасць у грамадстве расце.Павялічвае напружанасць і паспешлівае аб`яднанне з Расіяй, да якога імкнецца пэўная частка "маючых", якая вычарпала свой патэнцыял у межах Беларусі і хоча накіраваць Расіяй. Гэта і ёсць тая запалка, якую можа выкарыстаць любая апазіцыя. Калі чалавеку нечага есці, калі ў яго няма грошай купіць адзенне ці абутак, а яго яшчэ цягнуць аб`ядноўвацца з краінай, якая не можа вырашыць сваіх унутраных праблем, якая вядзе вайну на сваёй тэрыторыі, - чалавек выйдзе на вуліцу. Пажылыя людзі, якія бачылі вайну і іншыя цяжкія часы, прывыклі цярпець. А моладзь хоча жыць лепш ужо сёння. Яна бачыць побач раскошнае жыццё "маючых". Яна разумее, што не ў самастойнасці першапрычына гаротнага жыцця. Менавіта таму большую частку сярод тых, хто выйшаў 17 кастрычніка на вуліцы Мінска, складала моладзь.Яны выйшлі на вуліцы з усмешкамі на тварах, спявалі песні, скандыравалі "Жыве Беларусь!".Гэта добры знак таго, што сітуацыя ў краіне абавязкова некалі пераменіцца, таму што падрастаючаму пакаленню такое жыццё , як зараз, не падабаецца.

На жаль культурнага выхавання і вытрымкі нашай моладзі не хапае.Намер быў прайсці вуліцамі сталіцы, каб заявіць аб сваёй нязгодзе з існуючым становішчам тым, хто давёў да яго. Але уладутрымаючыя не далі людзям магчымасць выказаць свой пратэст.

Не было ніякіх "баевікоў".Завязаныя твары юнакоў сведчаць не аб прыналежнасці да баевікоў. Проста яны не хочуць быць апазнанымі і выключанымі з навучальных устаноў, у якіх вучацца. Горкі вопыт папярэдніх затрыманняў навучыў іх хадзіць цеснымі шарэнгамі,узяўшыся за рукі, каб міліцыянты не маглі выхапіць з натоўпу і запіхнуць у варанок асобнага безабароннага чалавека. Не было загадзя падрыхтаваных бандыцкіх атрыбутаў: цапоў, касцетаў, заточак і т.д.Зброяй дэманстрантаў сталі кавалкі тратуарнай пліткі ад разабранай лесвіцы, якую нібы спецыяльна пакінулі ў гэтым месцы рамонтнікі. Кавалкі гэтай пліткі і паляцелі ў бок міліцыянтаў, калі тыя суцэльным заслонам перагарадзілі шлях і пачалі хапаць асобных удзельнікаў шэсця. Трэба ведаць псіхалогію, юнакі не маглі моўчкі адысці ўбок, калі пачалі хапаць тых, хто толькі што ішоў з імі побач. Людзей спраВакавалі ўзяцца за камяні.

Моладзь – будучыня Беларусі. Але на вуліцы выйшла не толькі моладзь. У першых шарэнгах відаць было і сівыя галовы журналіста-праваабаронцы Валерыя Шчукіна, кінарэжысёра Юрыя Хашчавацкага і іншых. Наогул, людзей сталага ўзросту сярод дэманстрантаў было не меньш паловы. А тое, што ёсць людзі, якія не пабаяліся выйсці з пратэстам супраць праводзімай палітыкі ўлад, дае надзею, што жыццё будзе лепшым, што Беларусь жыве і будзе жыць.

***Г.Станкевіч***

## ВЕТЭРАНУ

Скажы,шаноўны ветэран,
Вайны мінулай знаўшы ліха,
І гвалт, і боль пякельных ран,
Чаму цяпер сядзіш ты ціха,

Калі над нашым родным мірам
Прывід фашысцкі зноў паўстаў ,
Бо Гітлера сваім кумірам
Наш прэзідэнт услых назваў.

Ад слоў ягоных сэрца стыне.
Ты ж бачыў, колькі гора, слёз,
Крыві,канцлагераў,Хатыняў
Шалёны Гітлер нам прынёс.

А сёння свет перавярнуўся
І той, хто ворагам нам быў,
Аказваецца, у Беларусі
Сабе прыхільніка набыў.

Як той быў "ісціны арыец",
Так гэты "існы славянін".
З народам раіцца любілі,
Ды каб камандаваў адзін.

Наш дакамандаваўся зрэшты,-
Патопіць, пэўна, карабель.
Як хочаш ні, як хочаш еш ты
На той мільён, што як рубель.

...Маўчыць ссівелы ветэран.
У кашальку ў яго не густа.
А цэны, як аэраплан,
Ляцяць угору, каб ім пуста.

***В. Гракун***

# ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ БЕЛАРУСІ

У незалежным друку з'явіўся адкрыты ліст кіраўнікам буйнейшых міжнародных арганізацый ( ААН. ЮНЭСКА. АБСЕ. МВФ і кіраўнікам дзяржаў Вялікай Васьмёркі), падпісаны шэрагам знакамітых людзей Беларусі: літаратараў.навукоўцаў.мастакоў,педагогаў,юрыстаў,святароў. Не будзе перабольшваннем сказаць, што сярод падпісантаў – цвет нацыі. яе інтэлігенцыя. адукаваныя, дасведчаныя людзі. Невялікі аб'ём бюлетэня не дазваляе перадрукаваць ліст цалкам. прыводзім яго ў скарочаным выглядзе:

" У 1994 годзе кіраўнікі Вялікабрытаніі, ЗША і Расіі падпісалі Мемарандум аб гарантыях бяспекі для Беларусі. якая абавязалася вывесці са сваёй тэрыторыі ядзерныя ўзбраенні. Шаноўныя бакі бралі на сябе абавязацельствы паважаць палітычную незалежнасць Беларусі. яе суверэнітэт. Аднак ці не забыты гэты Мемарандум сёння, калі ў Беларусі ўмацоўваецца дыктатарскі рэжым, які пачаў працю сваю пражу пасля канстытуцыйнага перавароту 1996 года. учыненага А. Лукашэнкам.

Беларусь - адзіная еўрапейская краіна. дзе практычна паралізавана дзейнасць легітымнага органа заканадаўчай улады Вярхоўнага Савета.

Сёння паспешліва фарсіруецца аб'яднанне Расіі і Беларусі, што будзе азначаць для апошняй страту незалежнасці.

А. Лукашэнка публічна прызнаваўся ў сімпатыях да гітлераўскага рэжыму ў Германіі і ў даверы дыктатару Югаславіі Слабадану Мілошавічу. Утварэнне адзінай дзяржавы дазволіць А. Лукашэнку пазбегнуць адказнасці за палітычны авантурызм і эканамічныя страты, нанесеныя ім Рэспубліцы Беларусь.

Нядаўна надрукаваны праект Саюзнага дагавору. Лёс беларускага народа спрабуюць вырашыць у абход ягоных правоў. Душацца любыя пратэсты супраць знішчэння суверэнітэту, нішчацца асновы беларускага этнасу. выводзіцца з ужытку беларуская мова. у дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі не дапускаюцца людзі, якія знаходзяцца ў апазіцыі да кіруючага рэжыму.

Мы просім у Прэзідэнта Расіі садзеяння ў надрукаванні гэтага ліста і патрабуем выканання сваіх абавязацельстваў у адпаведнасці з Мемарандумам.

Наш настойлівы заклік: дапамажыце знайсці інструмент для цывілізаванага ўтаймавання дыктатарскіх парыванняў А. Лукашэнкі і абароны суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Падтрымайце нашы ініцыятывы па аднаўленні дэмакратычных нормаў жыцця ".

Пад лістом 95 подпісаў.сярод якіх ***Васіль Якавенка, Генадзь Бураўкін, Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Святлана Алексіевіч, Уладзімір Арлоў,Артур Вольскі,Аляксей Марачкін, Юрый Хашчавацкі, Іван Нікітчанка*** і іншыя.

## КАМУ ПАТРЭБЕН ГЭТЫ САЮЗ ?

Саюз двух дзяржаў - важная палітычная падзея. Таму адразу узнікае два пытанні: "Каму ён выгадны?" і "Каму ён патрэбны?".

Народу Расіі, Расійскай дзяржаве? – Адназначна не. З'яўленне новага палітычнага фарміравання можа расхістаць квёлую федэратыўную канструкцыю і прывесці да яе развалу.

У эканамічным плане Расія і так можа мець ад Беларусі ўсе магчымыя выгоды. Новых яна не прыдбае, а клопатаў прыбавіцца. У ваенным плане – таксама.

Ці выгадны дагавор Беларусі? – Таксама не. Працавіты беларус будзе вымушаны выдзяляць частку сваіх грошай і прадуктаў, каб кінуць іх у расійскую прорву. Эканамічнае супрацоўніцтва і гандаль можна наладжваць і без страты незалежнасці.

Каму дагавор патрэбны?

Толькі палітыкам. Расійскім дзяржаўнікам, каб перад выбарамі зарабіць лішнія галасы, і беларускім – каб паспрабаваць прымерыць расійскі трон і не адказваць за развал, учынены ў Беларусі за апошнія пяць гадоў.

А народу можна наабяцаць, што пасля падпісання дагавору ў Беларусь пацякуць малочныя рэкі. (Адкуль?). Народу вельмі хочацца верыць у казку.

Цяпер да тых, хто спяшаецца падтрымаць дагавор. Вы ўжо сёння можаце запісацца дабравольцамі ў Чачню са сваімі сынамі, унукамі, пляменнікамі. Ці вы мяркуеце, што атрымаеце міску пахлёбкі, а ваяваць будуць іншыя?

Вось і ўся казка пра вялікую інтэграцыю, якая патрэбна аднаму чалавеку.

***Х.Жэляпаў***

* * *

***А Беларусь не памірала,***
***Яна жыве і будзе жыць,***
***Хоць і не раз яе вандалы***
***Распяць хацелі на крыжы.***
***Ды Беларусі воблік светлы***
***Плыве праз дні і праз вякі:***
***Дзяўчынка ў лузе сярод кветак***
***З вачыма,быццам васількі.***

***А. Бабаед***

# СВЯТА ЧАКАЛИ 70 ГАДОЎ



У дзень адкрыцця касцелу



У верасні адбылося урачыстае адкрыццё касцёла Святой Тройцы ў гарадскім пасёлку Ула. Цёплы восеньскі дзень, усыпаная кветкамі вуліца, радасныя ўсмешкі на тварах людзей, урачысты і ўзнёслы настрой, аб'ядноўшы прысутных, - сапраўднае доўгачаканае свята для вернікаў-каталікоў, якія набліжалі гэта свята, як маглі.

Чакалі гэтага свята амаль семдзесят гадоў, з тых далёкіх трыццатых,калі савецкай уладай касцёл быў ператвораны спачатку ў зернясховішча, а пасля ў клуб. Многія і не дачакаліся, напрыклад мае бацькі, якія ляжаць на каталіцкіх могілках на правым беразе Дзвіны, якраз насупраць касцёла. Клуб згарэў і пашкоджаны будынак ад якога, засталіся толькі сцены, стаяў закінуты і забыты пакуль не прыехаў у гэтыя мясціны ксёндз Мечыслаў Янчышын. Сам ён паляк. На беларускай зямлі адчувае сябе місіянерам. Працаздольнасць і адданасць выбранай справе айца Мечыслава здзіўляе і заслугоўвае найвышэйшай павагі і падзякі. За кароткі час ён аднавіў касцёл у Лепелі, потым узяўся за ўзвядзенне капліц і навядзенне парадку на каталіцкіх могілках у розных вёсках. Адначасова рыхтаваўся да рэстаўрацыі Ульскага і Ушацкага касцёлаў. І ўсюды, невядома як паспяваючы, збіраў вернікаў і праводзіў службу.

Аднаўленчыя работы вяліся ў Уле амаль пяць гадоў. Ахвяравалі, хто колькі мог. Ксёндз Мечыслаў не толькі арганізоўваў працу і кіраваў, але і сваімі рукамі зрабіў вельмі шмат. Галоўнае ж, што ён адрадзіў веру, стварыў супольнасць людзей, аб'яднаных адзінай мэтай і надзеяй, стаў для гэтых людзей і духоўнікам, і абаронцам, і дарадцам. Прыхаджане вельмі любяць і паважаюць свайго святара. У гэтым я пераканалася, гутарачы з многімі сваімі землякамі. Напрыклад, калі трэба было аднавіць алтар, ксёндз папрасіў вернікаў, ідучы ў касцёл, прыносіць усяго па адной цагліне. І неабходная колькасць хутка была сабрана. Кажуць, ксёндз наведаў хату кожнага свайго прыхаджаніна, ведае да драбніц іх гаротнае жыццё і вельмі спачувае людзям.

Да адкрыцця касцёла ўсе рыхтаваліся ўсхвалявана і старанна. Радасць каталікоў прыехаў раздзяліць Кардынал Казімір Свёнтак, дарогу якому выслалі жывымі кветкамі. Народу сабралася столькі, што старадаўнія сцены не маглі змясціць усіх жадаючых. Кардынал асвяціў касцёл і благаславіў прысутных.

Кардынал Казімір Свёнтак – першы і адзіны кардынал ва ўсходнеславянскіх краінах. Ён прайшоў жудасныя выпрабаванні сталінскіх рэпрэсій, двойчы быў у лагерах, зведаў там і голад і здзек (пяцьдзесят дзевяць начных допытаў запар, прыгавор да расстрэлу), але ад веры не адмовіўся і вера дапамагла яму выйсці жывым і не зломленым з ГУЛАГаўскіх жорнаў. Цяжкасці і выпрабаванні не загубілі любоў да простых людзей у душы гэтага вялікага чалавека, ён і сёння працягвае служыць Богу, касцёлу і духоўнаму адраджэнню народа. Зараз кожную нядзелю ў касцёле збіраецца больш ста вернікаў. Служба пачынаецца а палове другой гадзіны, але людзі збіраюцца загадзя, гадзіны за дзве да пачатку.

Адчыняе касцёл памочніца ксяндза Ада Іосіфаўна Мартынава. У яе шмат абавязкаў. Заўсёды сярод першых і старшыня касцёльнага камітэта Эмілія Іванаўна Ермаловіч, негледзячы на тое, што дабірацца гэтай 75-гадовай жанчыне даводзіцца за шэсць кіламетраў часцей за ўсё пешшу. Эмілія Іванаўна радуе сваёй руплівасцю, шчырасцю, самаадданай бескарыслівай працавітасцю. Прыязджае з Бешанковічаў Ганна Пятроўна Кірэміна, якую большасць з нас добра ведае як зубнога ўрача. Ганна Пятроўна расказала, як калісь бацька прывёў яе да разбуранага касцёла і сказаў: «Я можа і не дажыву, а ты абавязкова дачакаешся, калі тут зноў будзе храм». Яна дачакалася і нават выступіла з працікнёнай прамовай на ўрачыстым адкрыцці. Пра многіх хочацца ўспомніць пайменна. Напрыклад, жыхарка вёскі Шалягі Мальвіна Шавяка ахвяравала,ў касцёл вялікі прыгожы дыван. Нэля Барысевіч з Кардону і яе сяброўка Марыя з Мікалаева абсадзілі дарожку да ўваходу ў касцёл ялдоўцам. У касцёл нясуць самыя прыгожыя кветкі са сваіх палісаднікаў. Пра ўсіх на жаль не раскажаш, ды і робяць яны гэта не для славы і пашаны, а ад чыстага сэрца.

Ксёндз вядзе службу на беларускай мове. Вернікі спяваюць рэлігійныя песні і малітвы таксама па-беларуску. Гучыць арган. Дарэчы, айцец Мечыслаў запрашае жадаючых і маючых здольнасць асвойваць гэты інструмент, каб замяніць прыезджую арганістку.

Я была ў касцёле напярэдадні дня памяці продкаў – свята Дзяды. Адзін толькі нералік месцаў, дзе айцец Мечыслаў павінен адслужыць Святую імшу і памінальныя малітвы на могілках, уражвае: Лепель, Ула, Ушачы, Мікалаева, Бубалі і яшчэ з дзесятак вёсак, якія трэба наведаць, бо ў кожнай яго чакаюць вернікі.

Ксёндз Мечыслаў марыць зрабіць яшчэ вельмі шмат на аднаўленню касцёла, напрыклад зрабіць падлогу з мармуровай крошкі, пабудаваць невялікі пакойчык для споведзі, а можа і аднавіць дзве 25-мятровыя вежы, якія першапачаткова ўзвышаліся над касцёлам і ўсім наваколлем. І ніхто ўжо не сумняваецца – адновіць, з Божай і народнай дапамогай.

«Як Вы рыхтуецеся да сваіх нядзельных пропаведзяў, пра што больш за ўсё хачацца сказаць людзям?» –спытала я ў айца Мечыслава падчас нашай размовы. Вось як ён адказаў: « Я не рыхтуюся да пропаведзяў, як настаўнік да ўрока, не чытаю іх па паперцы, а кажу тое, што думаю, беручы тэмы са Святога Евангелля. Галоўная мэта маіх пропаведзяў і ўсёй маёй працы – выкінуць нянавісць з людскіх сэрцаў і змясціць у іх любоў праз любоў да Хрыста. Без гэтай замены жыццё не можа змяніцца ў лепшы бок.»

Вялікі дзякуй айцу Мечыславу за шчырыя словы і за тую працу, якую ён робіць.

***Валянціна Гракун***

*Замалёўкі з серыі " Ці накормяць нас калгасы?"*
*Заканчэнне, пачатак у першым і другім нумарах*

### Частка чацьвёртая. ЦІ НАКОРМЯЦЬ НАС ФЕРМЕРЫ ?

Калі я пачаў глыбей аналізаваць стан спраў у калгасным земляробстве,то жахнуўся: з 50 механізатараў, якія працуюць у калгасе, толькі каля 10 чалавек выконваюць асноўныя палявыя работы: аруць, сеюць, малоцяць. Астатнія працуюць "з прычэпам" Іх праца тасама патрэбна і нядрэнна аплочваецца, але не лічыцца асноўнай. З'яўляецца кантынгент механізатараў, якія не умеюць і не хочуць выконваць ніякую іншую кваліфікаваную працу.

Плошча пашні ў сярэднім калгасе каля 2 000 гектараў.На кожнага з працуючых дзесяці механізатараў, такім чынам, прыходзіцца па 200 га ворыўнай зямлі. Частку гэтай зямлі займаюць шматгадовыя травы. З астатняй спраўляюцца ўсё тыя ж дзесяць механізатараў.

Што замінае перадаць ім зямлю, якую яны фактычна апрацоўваюць, а заадно і тэхніку з наборам сельгасмашын? Для гэтых людзей трэба захаваць кааператывы па сушцы зерня, рамонту тэхнікі, запраўцы ГЗМ і іншаму абслугоўванню. Сабекошт прадукцыі адразу рэзка знізіцца, стане меней п'янства і крадзяжоў. А ураджай павінен узрасці.

Навошта ж мудрыць з рэформамі, крычаць на ўвесь свет, што без калгасаў мы памром з голаду? Калгасы і саўгасы ўжо стварылі харчовую праблему. Трэба зняць з працуючага чалавека калгасныя путы, даць яму зямлю і тэхніку, дазволіць яму самому распараджацца вынікамі сваёй працы і тады мы ўбачым, на што здольны мужык-беларус.

А каб не памыліцца ў выбары тых дзесяці хлопцаў, трэба пакапацца ў калгасных бухгалтарскіх паперах,яны пакажуць, хто стане сапраўдным гаспадаром на зямлі.

Небяспеку для гэтай рэформы асабіста я бачу толькі з боку праваднікоў рэформы. Яны ўжо столькі разоў знаходзілі магчымасць не даць простаму чалавеку стаць гаспадаром, бо тады ж губляецца іхняя роля – кіраваць і дзяліць. Механізатарам-фермерам наглядчыкі зусім не патрэбны.

Фермеры кормяць увесь свет. Думаю, і нас пракормяць.

*Г. Станкевіч*, у мінулым аграрнік

# БЕШАНКОЎСКАЯ БРАМА

Нашы продкі на ўездах у гарады рабілі вароты (брамы), каб перакрыць дарогу ворагу.Гэтыя збудаванні ўяўляюць гістарычную цікавасць, але пра ўзвядзенне новых штосьці не чуваць. Толькі ў Бешанковічах на вуліцы Маладзёжнай пабудавалі жалезныя "вароты", перагарадзіўшы ў двух месцах уезд з боку вуліцы Урыцкага. Цяпер ні аўтобус, ні трактар, ні нават рэанімацыйны ці пажарны аўтамабіль у гэтыя вароты не ўедуць, вышыня не дазваляе. А калі трэба мэблю перавезці ці кантэйнер з чыгункі – шукайце аб'езд. Вядома, аб'езд знайшлі тут жа побач, паглядзіце, якія каляіны разбілі травяны мурог пад ліпамі, хутка мабыць і самі ліпы пасохнуць, адтопчуць ім карэнні.Дык ад якіх ворагаў адгарадзілі Маладзёжную? Чыё самадурства выстаўлена на агульны агляд у такім людным мікрарайёне? На тыя вароты ўжо і знакі дарожныя павесілі "уезд забаронены".Вуліца ёсць, а ўезду не як няма!




Ад некаторых жыхароў я чула,што вароты паставілі,каб вялікія машыны не разбівалі асфальт. Але ж "кірпіч" забараняе ўезд для ўсіх.Атрымліваецца, як у тым анекдоце пра супрацоўніка ДАІ,які адмовіўся ад ганаровай граматы і прэміі і папрасіў, каб яму лепш далі пастаяць ля знака абмежавання хуткасці "20км". Яшчэ адзін жыхар казаў, што вароты паставілі, каб не спыняліся на начлег каля дамоў вадзіцелі-дальнабойшчыкі (няўжо іх шмат заязджае ў Бешанковічы?). Калі так лічыць, дык некаму захочацца і легкавікі да дамоў не падпусціць, няхай не псуюць паветра і не перашкаджаюць пешаходам. А можна пайсці далей, апусціць вароты да вышыні свайго росту, напрыклад 1,5 метра. А хто вышэйшы – няхай шукае абход ці прыгінаецца. У гісторыі ўжо быў такі стандартызатар, яго імя Пракруст. А мы ж прывыклі і абход шукаць і прыгінацца.

***В.Гракун***

" Кардон " – інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Віцебскай абласной Рады " Таварыства беларускай мовы" імя Францыска Скарыны ( для Бешанковіцкага раёна).Выходзіць пры падтрымцы Віцебскай філіі Фонду падтрымкі дэмакратычных ініцыятыў імя Льва Сапегі. Рэдкалегія: В. Гракун, А. Бабаед, Г. Станкевіч.Наклад 299. Распаўсюджваецца бясплатна. № 3. кастрычнік 1999.